

*Для Бацькаўшчыны-маці буду йграць!* Я.Купала

# Купалінка

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ

№ 9 (40) • ЛІСТАПАД 2013



# ВУЛІЦА КАЛІНОЎСКАГА

## МОЖА З'ЯВІЦЦА Ў БЕРАСЦІ




**Брэсцкі Гарвыканкам вынес на грамадскае абмеркаванне назву новай вуліцы, якая ўтварылася пасля будаўніцтва транспартнай развязкі "Заходні абыход", што ў раёне Брэсцкай Крэпасці.**

Першапачаткова планавалася надаць вуліцы назву "Таможная", што на думку філолагаў не прымальна. З улікам меркавання філолагаў у брэсцкіх і іншагародніх СМІ, а таксама апытання ў сацыяльных сетках на карысць іншай назвы (не "таможнай"), Малады Фронт пачынае безпрэцэндэнтную акцыю па наданню назвы вуліцы – імя Кастуся Каліноўскага.

Прапанову маладафронтаўцы тлумачаць некалькімі прычынамі:

Сёлета адзначаецца 150 гадавіна нацыянальна-вызвольнага паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага;

Берасце (горад і крэпасць) былі непаспрэдна звязаны з падзеямі паўстання (адбываліся рэйды інсургентаў у ваколіцах гораду, удзельнікі адбывалі пакаранне ў мясцовай турме, якая месцілася ў Крэпасці);

Наданне назвы новай вуліцы не звязана з пераймenнаваннем старой, таму бюджэт гораду не панясе дадатковых выдаткаў;

Чэмпіянат свету па хакеі і іншыя спартовыя падзеі прыцягнуць турыстаў, якія згодна міжнародных даследванняў, прагнуць адчування аўтэнтычнасці краіны, што прыдае каларыт калі назвы вуліцы нашых гарадоў звязаны з імёнамі нацыянальных герояў;

Брэст – гэта заходняя брама Беларусі і годная назва новай вуліцы, недалёк Варшаўскай шашы, паспрыяе фармаванню пазітыўнага іміджу як гораду, так і краіны.

Падпісацца за вуліцу Кастуся Каліноўскага можна на сайце анлайн-петыцый: http://www.petitions247.com/63377. Сабраныя подпісы будуць накіраваны на адрас афіцыйнага выдання гарвыканкама "Брестский вестник".

Прапановы па назве вуліцы "імя Кастуся Каліноўскага" можна накіроўваць сюды: Брэст, Міцкевіча 25, альбо на пошту: brestvestnik@mail.by(Газета «Брэсцкі вестнік»).

***dzedzich.org***

# СЕРГЕЙ ЧАЛЫЙ: «ЛУКАШЕНКО НА ВЫБОРЫ ПРИДЕТ УЖЕ ПРОИГРАВШИМ»



**В рамках спецпроекта «Кампания-2015» экономический обозреватель Сергей Чалый рассказал «Салідарнасці», что Россия не играет никакой роли в белорусской политике, заявил, что чиновничество уже переключилось в режим итальянской забастовки, и объяснил, почему грядущие выборы – самые удачные для смены власти.**

**«ЧИНОВНИКИ ПЕРЕКЛЮЧИЛИСЬ В РЕЖИМ ИТАЛЬЯНСКОЙ ЗАБАСТОВКИ, ДОСЛОВНО ИСПОЛНЯЯ САМЫЕ ДИКИЕ ИДЕИ ВОЖДЯ»**

*— Сегодня многие политики и эксперты говорят: главный враг Лукашенко — это экономика. Хотелось бы разобраться, чего в свете грядущих выборов Александру Григорьевичу от этого супостата ждать?*

— Действительно, именно экономика будет отличать выборы 2015-го от всех предыдущих. Уже понятно: нельзя не то, что отрапортовать о каких-то достижениях, а даже об исполнении наказов IV всебелорусского собрания. Нет никакой зарплаты в 1000 долларов, никакого роста в 66%. И довольно велики шансы, что можно встретить следующие выборы на уровне ниже 2010-го.

Политика сейчас заключается в том, чтобы просто постараться тупо дотянуть до 2015 года без кризиса. Но, очевидно, не удастся. По всем показателям это совершенно провальная пятилетка.

А власти с чем-то на выборы надо идти. Раньше предполагалось, что таким лозунгом может быть модернизация, но в виду негативных последствий для экономики ее уже потиху сворачивают. Остается Евразийский экономический союз. Но и тут уже ясно, что просто очередные три буквы будут придуманы, и на этом все.

Лукашенко нынешнюю посткризисную экономику не понимает. Не знает, как она работает, что с ней делать и как управлять. Прошлая была предельно понятна – тут добавили, там убрали, и все функционировало в ручном режиме. А тут после кризиса выяснилось, что при плавающем курсе это традиционное создание иллюзии богатства уже не работает.

Да и чиновничество к осени прошлого года уяснило, что образа будущего у вождя нет. Система начала работать на собственное выживание, на текущие нужды. И мы видим, что весь 2013 год — это какие-то тактические решения. Причем чем дальше, тем все более маразматические. Пошлина на выезд, принудительный труд на предприятиях, которые подвергаются этой комплексной модернизации, и т.д. — это все уже начинает приобретать совершенно анекдотические черты.

Поэтому выборы для Лукашенко несомненно будут тяжелые: достижений не видно, а все слабости налицо, и их очень легко будет использовать противникам. Что это за «уникальная модель», которая в течение пяти лет переживает три девальвации?

*— Вы сказали про противников. Вы имеете в виду кого? Оппозицию?*

— Мне вообще не хотелось бы произносить слово «оппозиция», поскольку на сегодняшний день она превратилась в диссидентское движение.

Все предыдущие годы оппозиция оправдывалась: «А что мы можем сделать, пока Лукашенко народ кормит? А вот как наступит кризис, мы тогда «как выпрыгнем, как выскочим — полетят клочки по закоулочкам»!»

Хорошо, вот вам кризис 2011 года. Люди в течение буквально нескольких месяцев становятся беднее в три раза. Какой еще кризис вам нужен? Очевидно, что никаких мобилизационных ресурсов у оппозиции нет.

Но, по крайней мере, если какой-то кандидат получит СМИ, уже известно, что говорить. Про то, что предыдущая власть действительно завела экономику в тупик, и выхода из него не видит.

Все, что делается, — это просто попытка «перехватить до зарплаты». Но если на этот год надо было перехватить 4 миллиарда долларов, то на следующий год дефицит финансирования — уже 8 миллиардов.

Основной вывод: система, которую выстраивали без малого 20 лет, приказала долго жить. Разрыв в благосостоянии с нашими соседями мы не закроем никогда — это потеря мозгов и рук, ловушка бедности на долгие годы вперед.

После всех этих кризисов стало ясно, что корольто голый. Я не ожидаю, что какие-то радикальные шаги наши власти успеют сделать за оставшиеся два года. Хотя это их единственный шанс.

*— Радикальные – это девальвация?*

— Очевидно, что она нужна. Нужно перестать упираться ногами и руками и дать рынку самому найти равновесный курс.

Но у Лукашенко серьезная психологическая травма по поводу девальвации. Поэтому задача, которая сейчас поставлена Нацбанку и правительству, — придумать любые способы избежать девальвации.

Теоретически это возможно. Но пока они не осознают, что социальные издержки этого пути еще тяжелее, чем если согласиться на рыночную девальвацию.

А что нужно сделать – давным-давно написано. Есть масса документов Всемирного банка, посвященных реструктуризации крупных промышленных предприятий, известно, что сделать с пенсионной реформой, с бюджетом, что делать на макроуровне Международный валютный фонд представляет себе с 2009 года.

Даже специалисты Минфина, аппарата Совмина, Минэкономики, Нацбанка (те, что ниже политических должностей) тоже все это понимают. Есть только сомнения, что эти меры могут быть поддержаны на самом верху.

Впервые Лукашенко из части решения проблемы уже становится самой проблемой. И мне кажется, что чиновничество, которое понимает, что происходит, уже переключилось в режим итальянской забастовки, дословно исполняя самые дикие идея вождя. Как тот же декрет №9, который был сделан за 10 дней от момента появления этой идеи, и при этом в настолько вопиющей форме, что до сих пор нет ни одного случая правоприменительной практики.

То же самое с налогом на безработных, с пошлиной на выезд. Под конец уже даже Лукашенко понял, что, наверное, брякнул себе во вред. Если раньше еще какие-то фильтры были, и эти бредовые идеи волшебным рашпилем обрабатывались и приводились в какую-то более-менее удобоваримую форму, то теперь хотите – пожалуйста. Напишем вам все, что угодно. Но это ведь только увеличивает ощущение маразма происходящего.

**Полный текст интервью Сергея Чалого читайте на нашем сайте: dzedzich.org.**

***gazetaby.com***

# РАМОНТ ПАД КАНТРОЛЕМ

## ЯКАЯ ПРАЦА ПА РАМОНТУ У КВАТЭРЫ (НЕ) ПАТРАБУЕ ДАЗВОЛУ АД УЛАДЫ?

**Нядаўна Савет Міністраў падпісаў пастанову № 384 «Аб некаторых пытаннях перабудовы і перапланіроўкі, установкі на дахах і фасадах шматкватэрных жылых дамоў індывідуальных антэн і іншых канструкцый, а таксама рэканструкцыі жылых дамоў». Мы звярнуліся ў Міністэрства жыллёвакамунальнай гаспадаркі, каб высветліць, чым гэта было выклікана, як памяняліся правілы перапланіроўкі і што рабіць тым, хто зрабіў перабудову ці перапланіроўку сваёй кватэры да выхаду гэтай пастановы.**

**БУДАЎНІЧЫ СВЕРБ**

— Вы паглядзіце, у нашых дамах ні зімой, ні летам не сціхаюць гукі малатка і перфаратара. Гэта суседзі, апантаныя будаўнічым свербам, ламаюць сцены і перарабляюць сваё жыллё. Але самавольная перапланіроўка кватэры, выкананая з парушэннем будаўнічых нормаў, можа несці пагрозу стану ўсяго жылога дома, — так адказаў на наша пытанне аб тым, чым выклікана падпісанне такой пастановы, начальнік упраўлення жыллёвай гаспадаркі Міністэрства жыллёвакамунальнай гаспадаркі Эдмунд ГРЫШКЕВІЧ. — Так што патрабаванні ўзніклі не на пустым месцы. У розныя інстанцыі, у тым ліку і ў наша міністэрства, паступала вялікая колькасць скаргаў на суседзяў, якія зрабілі перапланіроўку альбо памянялі падлогу. Вось толькі адна з іх:

«Пасля таго як мае суседзі зверху памянялі падлогу, сталі чуваць усе іх перамяшчэнні, працу бытавой тэхнікі, размовы, рыпанні дзвярэй, ламінату пад нагамі. Калі ў раёне кухні перасунуць крэсла або адкрыюць ваду ў ваннай, усё гэта чуваць у процілеглым куце маёй кватэры. А гук ад крокаў або ад прадметаў, якія ўпалі на падлогу, перадаецца нібы ўзмоцнены праз мікрафон. Што мне рабіць? Я прашу адказу ў спецыялістаў: ці павінна гэта ўсё адбывацца?»

Нярэдкія і выпадкі, калі гаспадары кватэр, у якіх з'явіліся трэшчыны на сценах або столі, падаюць скаргу на сваіх суседзяў, якія незаконным спосабам зрабілі перапланіроўку.

Эдмунд Грышкевіч адзначыў, што ў пастанове № 384 змяшчаецца не так ужо шмат наваўвядзенняў: «Правілы перапланіроўкі існавалі і раней. Напрыклад, да гэтага года дзейнічала Пастанова Саўміна № 1805 ад 31 снежня 2006 года, згодна з якой многія дзеянні па пераўладкаванні кватэры таксама павінны былі праходзіць працэдуру дазволу і распрацоўкі праекта. Іншая справа, што яе многія не выконвалі. Таму і была прынята больш «жорсткая» пастанова».

Такім чынам, згодна з пастановай, усе работы па пераўладкаванню і перапланіроўцы кватэры можна разбіць на тры блокі: тыя, што можна рабіць без дазволу і ўзгаднення; тыя, для выканання якіх трэба дазвол мясцовага выканкама; і тыя, для правядзення якіх патрабуецца і дазвол выканкама, і спецыяльны праект.

**ШТО МОЖНА РАБІЦЬ БЕЗ ДАЗВОЛУ:**

Устаноўку (замену) міжпакаёвых дзвярэй у межах існуючых дзвярных праёмаў.

Мантаж падвесных (нацяжных) столяў.

Устаноўку і дэмантаж убудаваных шаф і антрэсоляў.

Устаноўку вентыляцыйных прыбораў.

Замену электратэхнічных вырабаў (разеткі, выключальнікі, свяцільні).



Замену сантэхнічнага абсталявання і прыбораў.

Замену ўваходных дзвярэй, устаноўку ўзмоцненых уваходных дзвярэй у межах існуючага дзвярнога праёму без змены напрамку іх адчынення.

Дэмантаж ванны і ўстаноўку душавых кабін, перанос дзеючай і ўстаноўку дадатковай водаразборнай арматуры, замену трубаправодаў водазабеспячэння і каналізацыі ў межах кватэры, без змены месцазнаходжання санітарнатэхнічнага абсталявання.

**ПАТРЭБНЫ ДАЗВОЛ МЯСЦОВАГА ВЫКАНАЎЧАГА ОРГАНА:**

• Для выканання работ па змене плошчы, колькасці жылых пакояў і падсобных памяшканняў у кватэры з захаваннем функцыянальных зон за кошт распрацоўкі існуючых або прылады новых перагародак;

• Для выканання работ па выразанню, павелічэнню праёмаў у перагародках.

• Для атрымання дазволу мясцовага выканаўчага органа неабходна падаць заяву аб дазволе перабудовы і перапланіроўкі і да яе прыкласці наступныя дакументы:

1) пашпарт;

2) пісьмовую згоду на перабудову і перапланіроўку кватэры ўсіх паўналетніх членаў сям'і і грамадзян, якія маюць права валодання і карыстання памяшканнем;

3) плансхему або пералік (апісанне) работ па пераўладкаванні і перапланіроўцы (складаецца ў адвольнай форме);

4) копію дакументаў, якія сведчаць права ўласнасці на памяшканне;

5) тэхнічны пашпарт і дакумент, які пацвярджае права ўласнасці на кватэру;

6) пісьмовае ўзгадненне арганізацыі забудоўшчыкаў у жылых дамах гэтай арганізацыі — для члена арганізацыі забудоўшчыкаў, які не з'яўляецца ўласнікам памяшкання.

**(заканчэнне на стар. 4.)**





## ЗА НАШИ ПРАВА!



# РАМОНТ ПАД КАНТРОЛЕМ

## ЯКАЯ ПРАЦА ПА РАМОНТУ У КВАТЭРЫ (НЕ) ПАТРАБУЕ ДАЗВОЛУ АД УЛАДЫ?

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 3.)**

Далей ва ўзгоднены з вамі час прадстаўнікі ЖЭСа і мясцовага выканкама зробяць агляд вашай кватэры на прадмет адпаведнасці яе існуючай планіроўкі тэхпашпарту і тэхнічнага стану канструкцый і інжынернага абсталявання і складуць акт тэхнічнага агляду.

Затым на падставе прадстаўленых вамі дакументаў і акта тэхнічнага агляду выканкам прыме рашэнне аб дазволе перабудовы і перапланіроўцы або аб адмове.

**ПАТРАБУЕЦЦА ДАЗВОЛ ВЫКАНКАМА І ПРАЕКТ:**

– для дэмантажу, устаноўкі, замены ці пераносу сістэм гарачага і халоднага водазабеспячэння, газазабеспячэння, ацяплення, электразабеспячэння, водаадвядзення (каналізацыі), смеццевыдалення, газавыдалення, вентыляцыі, у тым ліку электрычнага, санітарнатэхнічнага, ацяпляльнага газавага абсталявання і ацяпляльных прыбораў;

– для пераносу змеевіка, дзе сушаць ручнікі;

– для прылады гідра, пара, цеплаі гукаізаляцыі;

– для змянення канструкцыі падлогі;

– для змен у апорных канструкцыях.

Калі для выканання работ па пераўладкаванню і перапланіроўцы кватэры патрабуецца распрацоўка праекта, то пасля атрымання дазволу выканкама вы складаеце дамову на выкананне праектных работ з распрацоўшчыкам праектнай дакументацыі. Такія работы ў шматкватэрных жылых дамах, а таксама блакіраваных і аднакватэрных жылых дамах вышынёй больш за два паверхі (больш за 10 м) павінны выконвацца толькі па дагаворах будаўнічага падраду.

Работы па разборцы існуючых і (або) узвядзенні новых перагародак, выразанні, павелічэнні праёмаў у перагародках, а таксама работы па пераўладкаванні і перапланіроўцы ў блакіраваных і аднакватэрных жылых дамах вышынёй да двух паверхаў (да 10 м) могуць выконвацца самім грамадзянінам.

Вы павінны таксама забяспечыць тэхнічны нагляд за выкананнем работ па пераўладкаванню і (або) перапланіроўцы, прадугледжаных праектам.

Завяршэнне работ па пераўладкаванні і (або) перапланіроўцы пацвярджаецца актам прыёмкі выкананых работ. Прыёмачная камісія і старшыня вызначаюцца мясцовым выканкамам на падставе вашай пісьмовай заявы.

**ВАЖНА:**

змены ў выніку перабудовы і перапланіроўкі трэба абавязкова зарэгістраваць у тэрытарыяльнай арганізацыі па дзяржаўнай рэгістрацыі нерухомай маёмасці, правоў на яе і здзелак з ёю.

У пастанове вызначаны работы, якія не адносяцца да пераўладкавання і перапланіроўкі, але таксама патрабуюць узгаднення ў розных арганізацыях. Гэта:

• устаноўка індывідуальных прыбораў уліку вады, замена змеевіка для сушкі ручніка (узгадненне з ЖЭСам);

• замена газавай пліты, катла або калонкі ў межах памяшкання, у якім яны ўстаноўлены па праекце, а таксама ўстаноўка індывідуальных прыбораў уліку газу (узгадненне з газазабяспечвальнай арганізацыяй);

• замена запаўненняў аконных і дзвярных праёмаў фасадаў шматкватэрных жылых дамоў (узгадненне з архітэктарам выканкама);

• уладкаванне ў шматкватэрных жылых дамах халодных памяшканняў за кошт шклення балконаў і лоджый (узгадненне з архітэктарам выканкама і ЖЭСам);

• устаноўка ў шматкватэрных жылых дамах узмоцненых і дадатковых уваходных дзвярэй са зменай напрамку іх адчынення (узгадненне з ЖЭСам).

Самавольную перапланіроўку можна (і трэба) узаконіць!

Але што ж рабіць тым, хто ДСП замяніў на ламінат альбо памяняў батарэі да выхаду пастановы Саўміна № 384? Як зараз быць гэтым людзям? Якія могуць быць для іх наступствы?

— Калі самавольна выкананыя работы не ўплываюць на бяспеку будынка і адпавядаюць патрабаванням тэхнічных нарматыўных прававых актаў, то на іх можа быць атрыманы дазвол, — тлумачыць Эдмунд Грышкевіч. — Для яго атрымання трэба падаць у мясцовы выканкам такія ж дакументы, як і для атрымання дазволу на перабудову і перапланіроўку. Адпаведнасць выкананых работ усім патрабаванням пацвярджаецца тэхнічным заключэннем. Як правіла, тэхнічнае заключэнне распрацоўваецца праекцiроўшчыкам.

Далей да вас прыйдуць прадстаўнікі ЖЭСа і выканкама, каб правесці агляд кватэры на прадмет адпаведнасці яе існуючай планіроўкі тэхпашпарту і тэхнічнага стану канструкцый і інжынернага абсталявання. У выніку будзе складзены акт тэхнічнага агляду.

Затым на падставе прадстаўленых вамі дакументаў і акта тэхнічнага агляду выканкам прыме рашэнне — дазволіць самавольную перабудову і перапланіроўку альбо адмовіць у такім дазволе.

Калі было прынята станоўчае рашэнне, то ўсе змены ў кватэры трэба зарэгістраваць у тэрытарыяльнай арганізацыі па дзяржаўнай рэгістрацыі нерухомай маёмасці, правоў на яе і здзелак з ёю.

Можна, вядома, нічога гэтага не рабіць. Але ўлічвайце, што незаконная і самавольная перапланіроўка выявіцца, калі кватэра, у якой быў праведзены падобны «рамонт», будзе выстаўлена на продаж або афармляцца ў спадчыну. У гэтых выпадках без узаконьвання перапланіроўкі ўсё роўна не абысціся.

***По матэрыялах газеты «Звязда»***




## *Купалінка*

*ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ*

• **Заснавальнік** – Суполка "Усход-2" гарадской арганізацыі Партыі БНФ
• Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранага карыстання
• **Падпісана ў друк** 25.11.2013 года ў 12-00
• Папера афсетная, 0,5 ул.-друк. аркуша, фармат А4. Гарнітура Myriad
• Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сябраў рэдакцыі
• **Наклад:** 299 асобнікаў
• Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі
• **Галоўны рэдактар:** Уладзімір ТАРНОЎСКІ
• **Рэдакцыйная калегія:** Кірыл КАТОВІЧ, Наста ПАПЯЛОЎСКАЯ, Ульяна ВЕНЦЕЛЬ
• **Кантактны тэлефон: (029) 222-58-22, (029) 660-57-41**
• **E-mail:** kupalinka_bnf@tut.by